# ПАГОНЯ

Чацвер
9 лістапада 2000 г.
№ 42 (489)
Кошт 70 рублёў


# Дзікае паляваньне палкоўніка Васілеўскага

**1 лістапада, на Дзяды, гарадзенская міліцыя з нематываванай жорсткасьцю беспадстаўна затрымала 23 чалавекі, якія ўскладалі кветкі да помнікаў славутым гарадзенцам. У Ленінскі РАУС, якім кіруе палкоўнік Станіслаў Васілеўскі, гвалтоўна былі дастаўленыя сябры БНФ «Адраджэньне», Маладога Фронту, Маладой Грамады, прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі і журналісты. Сярод апошніх была карэспандэнтка ПАГОНІ. Прапануем чытачам хроніку падзеяў.**



Ірына Салей:
*- Мяне схапілі за рукі два міліцыянты і пацягнулі ў машыну. Там ужо сядзелі дзьве жанчыны. Адзін мент хацеў сесьці нам на рукі, але мы пачалі крычаць. Тады ён заскочыў наперад, на калені да свайго сябра.*



Алесь Міхальчык:
*- Мяне ўразілі нечалавечыя адносіны міліцыі да нас. Шэсьць амапаўцаў кінулі мяне тварам на зямлю. Затым яны, разьмясьціўшыся на маёй сьпіне, надзелі кайданкі, якімі пашкодзілі палец. Пасьля гэтага з маёй рукі зьнік гадзіньнік.*



Сьвятлана Нех:
*- Міліцыянты моцна абадралі мне палец, і зь яго ўвесь час ішла кроў. Калі нас дастаўлялі ў пастарунак, адзін міліцыянт сядзеў у мяне на каленях. Я абуралася, а ён сказаў, што пабач з машынай не пабяжыць, а сорам свой ён пакінуў у хаце...*



Мікола Воран:
*- У гэты сьвяты дзень над намі зьдзейсьнілі гвалт. Мяне зьнянацку схапілі за галаву, закруцілі рукі за сьпіну і кінулі ў машыну. Я не даваў апрануць мне кайданкі, і яны пачалі біць мяне па ўсім целе...*

**17.20. Шыльда ў гонар паўстанцам 1863-64 гг.**

Некалькі дзесяткаў чалавек паціху зьбіраюцца ля чыгуначнага вакзалу. Жанчыны трымаюць у руках кветкі і маленькія нацыянальныя сьцяжкі. У прыцемках адна за адной запальваюцца маленькія зьнічкі. Людзі хвілінай маўклівасьці ўшаноўваюць памяць пра нацыянальных герояў і рушаць далей.

**17.40. Гарадзенскі дзяржаўны ўнівэрсітэт, помнік Янку Купалу**

Людзі хаваюцца пад парасонамі ад даждж. Настаўніца беларускай мовы і літаратуры Ірына Данілоўская чытае вершы паэта. Раптоўна яе перарывае крык чалавека ў міліцэйскай форме, які не прадставіўся:

- Вы парушаеце Закон аб масавых шэсцях! Разыйдзіцеся!

На яго абурана шыкаюць:

- Не грашыце, сёньня ж Дзяды! Мы па традыцыі кветкі ўскладаем...

Галаву ў фуражцы мала цікавяць старажытныя традыцыі і ён пераходзіць на прaнізьлівы крык:

- Затрымлівайце ўсіх!

Людзі заўважаюць, што яны ахопленыя шчыльным колам міліцыянтаў і амапаўцаў. Відавочна, што іх разы ў два больш за ўдзельнікаў мерапрыемства. Каля дзесятка машынаў зь «мігалкамі» блакавалі дарогу ля ўнівэрсітэту. Далей - як у галівудскім баявіку. Хапаюць усіх без разбору. Тых, хто спрабуе супраціўляцца, кідаюць тварам на брудны газон і ўціхамірваюць пры дапамозе ботаў і дубінак. Намесьнік старшыні гарадзенскай БНФ Алесь Міхальчык ляжыць на зямлі. На ім сядзяць шасьцёра АМАПаўцаў і спрабуюць надзець кайданкі. Міколе Ворану і Пятро Анісімовічу заломваюць рукі. Спрабую крычаць, што я - журналістка, дастаю пасьведчаньне. Малады міліцыянт у адказ моўчкі ківае галавой у бок варанка. За лічаныя хвіліны ўсіх бесцырымонна па тры - чатыры чалавекі закідваюць у машыны. Сьледам укідваюць кветкі, зьнічкі і парасоны. Міліцыянты, якім не хапіла месцаў, ускокваюць на калені затрыманым жанчынам і маладым дзяўчатам. Паехалі!

**17.50. Ленінскі РАУС**

На ганку сустракаюць амапаўцы. Усіх затрыманых, 23 чалавекі, дастаўляюць у адзін вялікі пакой. На сьцяне - герб РБ і слова з трох літараў.

- Паглядзіце, што гэта? - абураецца адна з жанчынаў.

- Хіба прозьвішча начальніка! - жартуе мужчына побач з ёю.

У памяшканьні ўсталёўваюць відэакамеру, на якую здымаюць усіх прысутных. Маладога аператара, Сяржука, шмат хто ведае ў твар - ужо гадоў шэсьць ён суправаджае ўсе акцыі гарадзенскай апазіцыі, ствараючы відэаархіў для ворганаў.

Высьвятляецца, што падчас сумятліцы ля помніку ў Алеся Міхальчыка з рукі зьнік гадзіньнік. Дваццацігадовай Сьвятлане Нех міліцыянты пашкодзілі палец правай рукі - на падлогу ўвесь час капае кроў. Дзяўчына з паўгадзіны патрабуе медычнай дапамогі. Толькі пасьля таго, як яна адмаўляецца даваць усялякія паказаньні, прыходзіць доктар і перавязвае палец. Яшчэ хвілінаў дваццаць ён просіць дазволу на тое, каб адвесці Сьвятлану ў траўмапункт. Урэшце рэшт яе адвозіць «хуткая» - высьвятляецца, што ў дзяўчыны страшэнна падняўся ціск. Усіх астатніх па два чалавекі разводзяць па кабінетах, дзе оперупаўнаважаныя складаюць тлумачальныя запіскі.

*18.40.*

Жанчыны пытаюцца, ці можна схадзіць у прыбіральню. Людзі ў штацкім, якія ўвесь час сядзелі ў пакоі, моўчкі ігнаруюць пытаньне. Прысутныя пачынаюць патрабаваць выклікаць начальства. Міліцыянт ля дзьвярэй ухмыляецца:

- Няма нікога, працоўны дзень скончаны.

Нечакана на дапамогу прыходзіць Сяржук - той, што зь відэакамерай. Ён прапануе правесьці жанчынаў у мужчынскі сарцір, «бо жаночы ўжо зачынены на ключ».

**19.25.**

Усіх зьбіраюць разам і чамусьці толькі дзевятнаццаці з дваццаці трох прапануюць падпісаць пратаколы - «за ўдзел у несанкцыянаваным шэсьці». Людзі спрабуюць тлумачыць, што ніякага шэсьця не было, проста яны па традыцыі хацелі ўскласьці кветкі да памятных месцаў свайго гораду. Журналісты, якіх затрымалі разам з усімі, спрабуюць давесьці, што яны выконвалі сваю працу, што іх затрыманьне незаконнае і пярэчыць дзеючай Канстытуцыі.

- І што з таго? - абыякава адказвае чырвонашчокі опер Сьпіцын, ад якога несла чымсьці, што вельмі нагадвала алкаголь. - Нам загадалі напісаць «удзел у несанкцыянаваным шэсьці», мы і напісалі. Не падабаецца, не падпісвай!

Міколе Ворану і Пятру Анісімовічу адразу ўручаюць позвы ў суд. У пратаколах пішуць, што супраціўляліся міліцыі і мацюкаліся.

**19.50.**

Нарэшце ўсім прапаноўваюць «вызваліць памяшканьне». Капітан Вялічка, без якога не абыходзіцца ніводнае затрыманьне дзеючай апазіцыі, крычыць усьлед:

- Пакуль мы тут з вамі вазіліся, ля ўнівэрсітэту жанчыну абрабавалі, залаты ланцужок скралі!

Атрымліваецца, што пакуль падначаленыя Вялічкі лапалі маладзёнаў, сапраўдныя злачынцы выкарысталі гэты момант.

**20.00.**

Нягледзячы на праліўны дождж, усе вырашаюць працягнуць перарванае мерапрыемства. Перад ўнівэрсітэтам працэсію гучнымі воклічамі вітаюць студэнты - яны бачылі затрыманьне. Ірына дачытвае верш. Далучаецца хор «Бацькаўшчына».

Ля помніка Элізы Ажэшка за натоўпам пачынае паволі ехаць міліцэйская машына. Мы са сьмехам назіраем, як яна караскаецца па прыступках парку Жылібера за людзьмі з кветкамі і зьнічкамі. Дом Максіма Багдановіча - шыльда Рыгору Шырме - помнік Адаму Міцкевічу - драўляная скульптура князя Вітаўта Вялікага - шыльда паўстанцам 1794 года на сьцяне Новага Замку - па ўсяму маршруту адна міліцэйская машына зьмяняла другую. І хапае ж на такое бензіну!

**22.00. Помнік «Пагоня на Грунвальд» ля Каложы**

Апошні пункт маршрута. Да нас тут ужо пабывала група моладзі, якую не затрымалі разам з усімі - на каменьні гарэць 15 сьвечак, выкладзеных крыжом.

---

Начальнік Ленінскага РАУС Станіслаў Васілеўскі адмовіўся пракамэнтаваць гвалтоўныя нематываваныя дзеяньні сваіх падначаленых. У прэс-групе УУС паведамілі толькі, што затрыманьне праводзілі «нарады патрульна-паставой службы», а хто імі кіраваў, яны не ведаюць. Паводле Георгія Яўчара, прадстаўніка прэс-групы, у РАУСе было складзена толькі два пратаколы.

Усе 23 затрыманыя склалі скаргі пракурору Ленінскага раёну, пракурору вобласьці, а таксама напісалі заявы ў праваабарончы цэнтар «Вясна» і прадстаўніцтву АБСЭ на Беларусі.

**Юлія Дарашкевіч**

**Сёньня ў судзе Ленінскага раёну а 14-й гадзіне пачнуцца працэсы актывістаў БНФ Пятра Анісімовіча і Міколы Ворана. Яны былі затрыманыя падчас адзначэньня Дзядоў 1 лістапада. Першыя паседжаньні мусілі адбыцца ўжо на наступны дзень, але былі перанесеныя з-за адсутнасьці перакладчыка. Выявілася, што з усіх службовых асобаў, якія прысутнічалі на судзе, ніхто не валодае беларускай мовай.**

**Пятра Анісімовіча абвінавацілі ў супраціўленьні міліцыі, Міколу Ворана - яшчэ і ў хуліганстве. У пратаколе апошняга запісалі, што ён лаяўся. Сябры Ворана жартуюць, што, каб той навучыўся мацюкацца, яго трэба хіба гадоў на пяць выслаць у Расею.**

# Заява Гродзенскай гарадской Рады БНФ «Адраджэньне».

**1 лістапада Гродзенская гарадская арганізацыя БНФ "Адраджэньне" праводзіла традыцыйныя мерапрыемствы, прысвечаныя Дзядам - Дню ўшанавання памерлых продкаў, святу, якое да адмены А.Лукашэнкам было дзяржаўным.**

**У гэты дзень сябры арганізацыі ўрачыста ўсклалі кветкі і паставілі запаленыя свечкі на магілы памерлых сяброў і знакамітых гарадзенцаў.**

**А 17-й гадзіне каля 40 чалавек з запаленымі свечкамі і кветкамі пачала наведванне памятных мясцінаў горада, што не патрабуе афіцыйнага дазволу з боку гарвыканкама. Пасля ўскладання кветак да памятнай дошкі ў гонар паўстанцаў 1863-1864 гадоў на чыгуначным вакзале ўдзельнікі па тратуарах прайшлі да помніка Янку Купалу. У час ускладання кветак прысутныя былі акружаны сотняй амапаўцаў і міліцыянтаў. Маёр, які кіраваў імі, не прадставіўшыся, запатрабаваў спыніць мерапрыемства і аддаў загад арыштоўваць усіх удзельнікаў. Пры затрыманні супрацоўнікамі міліцыі і АМАПу беспадстаўна былі прыменены жорсткія метады фізічнага ўздзеяння. Быў павалены на зямлю, скручаны і закаваны ў кайданкі намеснік старшыні гарадской арганізацыі Аляксандр Міхальчык, выкруцілі рукі сябру рады Міколу Ворану. Людзей гвалтоўна запіхвалі ў машыны. Пятра Анісімовіча, які не памяшчаўся ў «варанок», павалілі на зямлю, скавалі кайданкамі і ўкінулі ў машыну на людзей. Святлане Нех пры затрыманні пашкодзілі пальцы. Толькі ў Ленінскім РАУС пасля неаднаразовых патрабаванняў з боку затрыманых, да яе выклікалі медыкаў, каб спыніць крывацёк і аказаць медычную дапамогу. Усяго было незаконна затрымана 23 чалавекі. Затрыманых даставілі ў Ленінскі РАУС, дзе ўзялі пісьмовыя тлумачэнні і склалі пратаколы. Двум удзельнікам мерапрыемства - Пятру Анісімовічу і Міколу Ворану - адразу былі ўручаныя позвы ў суд. Іх, акрамя іншага, абвінавацілі ў супраціве міліцыі пры затрыманні. Ленінскім раённым судом ужо распачаты разгляд уяўных адміністрацыйных правапарушэнняў адносна П.Анісімовіча і М.Ворана.**

**Мы разглядаем дзеянні супрацоўнікаў праваахоўных органаў, як свядомае парушэнне дзеючага заканадаўства Беларусі, перавышэнне з ужываннем насілля службовых паўнамоцтваў. Гэтыя незаконныя дзеянні былі накіраваныя на:**

**- знявагу нацыянальных і культурных традыцыяў беларусаў;**

**- знявагу памяці нашых продкаў;**

**- абразу рэлігійных і духоўных пачуццяў удзельнікаў;**

**- парушэнне правоў чалавека на свабоду веравызнання, свабоду слова, асабістую недатыкальнасць.**

**На падставе вышэйзгаданага патрабуем ад пракуратуры Гарадзенскай вобласці:**

**1. Распачаць крымінальную справу па факту незаконнага затрымання удзельнікаў ускладання кветак да помніка Янку Купалу;**

**2. Прыцягнуць да адказнасці супрацоўнікаў міліцыі Ленінскага РАУС і Гарадзенскага АМАПу за парушэнне дзеючага заканадаўства і перавышэнне службовых паўнамоцтваў;**

**3. Недапушчэння ў будучым незаконных дзеянняў праваахоўных органаў горада Гродна. 7 лістапада 2000 года**

## НАДВОР'Е

9, 10 лістапада - воблачна, з праясненнямі, часам - ападкі, вецер паўночна-заходні, 6-12 м/с. Тэмпература паветра 9, 10 лістапада - уначы +3...+6, удзень +10...+15.

# Ушанавалі памяць беларускага паўстанца

**У суботу, 4 лістапада, каля Парэцкай царквы (Слонімшчына) быў усталяваны крыж у гонар беларускага паўстанца Міхала Валовіча (1806-1833) і ягоных паплечнікаў.**

Пяцімятровы шасціканцовы жалезны крыж удзельнікі акцыі (некалькі дзесяткаў маладых людзей) неслі каля 4 кіламетраў праз вёскі Васілевічы і Парэчча да паўразбуранай царквы. Там крыж быў усталяваны і асвечаны ўніяцкім святаром. Да яго быў ускладзены вянок, аздоблены бел-чырвона-белай стужкай. Перад моладдзю і мясцовымі жыхарамі выступілі даследчык жыцця і дзейнасці Міхала Валовіча Аляксандр Талерчык і прадстаўнік незарэгістраванай спартова-патрыятычнай арганізацыі «Край», якая арганізавала ўсталяванне крыжа. Вяскоўцам раздавалі брашуры пра беларускага паўстанца, адмыслова выдадзеныя для гэтай акцыі.

ПАГОНЯ сёлета пісала пра Міхала Валовіча і ягоны ўдзел у вызваленчым паўстанні 1830 года. Пасля яго здушэння расейскімі ўладамі, Валовіч выехаў на эміграцыю. Праз тры гады Міхал Валовіч вярнуўся на Бацькаўшчыну, каб працягваць змаганне за яе вызваленне. З ліку сялянаў ён стварыў партызанскі атрад, які праз некалькі месяцаў быў разбіты. Сам Міхал Валовіч быў схоплены і павешаны ў Гродне. Ягонае цела расейскімі карнікамі было таемна пахавана. І вось цяпер з'явілася сімвалічная магіла беларускага паўстанца.

Сімвалічна, што акцыя была праведзена на Дзяды. Людзі памятаюць слаўтых продкаў, якія аддалі свае маладыя жыцці ў барацьбе за незалежнасць Беларусі.

**Б.П.**

# «День 7-го ноября - красный день календаря»

**Пазаўчора ў Гродне на цэнтральнай плошчы, якая дагэтуль носіць імя Леніна, пад велічным помнікам правадыра міравога пралетарыяту адбыўся мітынг прыхільнікаў камуністычнай ідэі ў гонар 83-й гадавіны бальшавіцкага перавароту.**

Роўна ў дзесяць гадзін раніцы гэты мітынг адкрыў старшыня Савета ветэранаў г.Гродна Іван Абросімаў. Ён павіншаваў амаль дзве сотні сівагаловых пенсіянераў, вайскоўцаў-адстаўнікоў, ветэранаў органаў НКУС, МГК і КГБ, якія сышліся разам, каб адзначыць святую для сябе дату. Высветлілася, што дзеля гэтай мэты аб'ядналіся нават непрымірымыя апошнім часам антаганісты - камуністы-калякінцы і камуністы-чыкінцы, якія, выяўляецца, аднолькава ацэньваюць ролю і значэнне кастрычніцкага перавароту ў сусветнай гісторыі.

Слова мелі таксама дацэнт Гарадзенскага дзяржаўнага універсітэта Уладзімір Нядзелька, кіраўнік мясцовай вертыкалі Анатоль Пашкевіч... Усе прамоўцы, як па шаблону, адзначылі прагрэсіўную ролю кастрычніка ў нашым жыцці, кляліся у адданасці ідэалам, заклікалі адзін аднаго змагацца за лепшую будучыню...

Апафеозам падзеі стала ўзнагароджанне палкоўніка ў адстаўцы Мікалая Сцяпанавіча Пруднікава ордэнам Чырвонага Сцягу, да якога, ён, як высветлілася цяпер, быў прадстаўлены падчас вайны, калі маладзенькім лейтэнантам камандаваў узводам. Узнагарода, што называецца, знайшла героя. Аднак працэс прышпільвання баявога ордэна, які спехам, быццам бы штосьці неістотнае, быў праведзены падчас гэтага, без парабольшання, нешматлюднага мерапрыемства, выклікаў сорам і горыч. І наогул. Даволі сумна глядзелася гэтая невялічкая купка людзей на вялізнай і пустой у гэты ранішні час плошчы, на якой не было нават выпадковых прахожых. Можа, адчуўшы гэта, арганізатары за поўгадзіны завяршылі сваё мерапрыемства, якое асянялі сцягі БССР і Савецкага Саюза. Аднак самыя адданыя з камуністаў не разыходзіліся яшчэ з гадзіну. Размахваючы рукамі, яны агрэсіўна штосьці даводзілі адзін аднаму. Увесь гэты час вымушаны быў мерзнуць і нешматлікі нарад міліцыі, які падкрэслена дыстанцыраваўся ад мітынгоўцаў.

**Ул. інф.**

**Удзельнічалі ў мітынгу па-сапраўднаму першыя рады, астатнія ж размазаліся паміж сабою на розныя тэмы. У 10.20 людзі паклалі кветкі да помніка Леніну, і ўжо праз 10 хвілінаў мітынг скончыўся. Аднак я вырашыла даведацца, чаму ж людзі прыйшлі на гэтае свята. І вось адказы, якія я пачула.**

**Жанчына гадоў 50-ці:**

**- Гэта наша гісторыя. Штогод прыходжу сюды, каб кветачкі пакласці. І наогул, свята гэта не выкінеш.**

**- Ідзіце адсюль, - сказаў незадаволены мужчына.**

**- Прыйшлі сюды, каб сустрэцца, паразмаўляць, прыгадаць вайну, - адказалі тры бабулькі.**

**- Я - камуністка і надалей буду камуністкай, - адказала жанчына з прыгожымі кветкамі. Але чамусьці да помніка яна іх не паклала.**

**Усе людзі былі старэйшага ўзросту, у асноўным пенсіянеры. Але я ўбачыла і моладзь (я налічыла толькі пяць чалавек), ім таксама задала гэтае пытанне. Адказы былі наступныя:**

**- Работа такая, - адказаў мне малады чалавек, які прадставіўся міліцыянтам.**

**Маладая дзяўчына:**

**- Паглядзець прыйшла на гэтую камедыю.**

**Праслухаўшы адказы людзей на мітынгу, я задалася пытаннем: чаму ж іншыя праходзяць міма. І пайшла гэта высвятляць. Адказы на пытанне: «Як вы ставіцеся да свята і чаму не ўдзельнічаеце ў мітынгу?», - былі розныя.**

**- Якое яшчэ свята?!**

**- Стаўлюся вельмі кепска. Раней сапраўды было свята, а зараз толькі сцягі па горадзе і ўсё.**

**- Ва ўсім свеце свята такога няма, - пачула я першы і апошні адказ на беларускай мове.**

**- Каму патрэбна такое свята?! Хай лепш вернуць нам рэлігійныя святы, якія адмянілі!**

**Дык што ж мы святкуем? Ці не прыйшоў ужо той час, калі трэба забыцца на гэтае свята і залічыць яго да старонкі гісторыі?**

**З аднаго боку, для нашай улады 7 лістапада - сапраўднае свята. З другога боку, простыя людзі, вернікі, не могуць пагадзіцца з адменай святкавання Вялікдзеня і Дзядоў за кошт увядзення камуністычных святаў. І да таго ж само вызначэнне «Вялікая Кастрычніцкая рэвалюцыя» - справа цёмная, бо, па-першае, Ленін, які ўзначальваў рэвалюцыю, быў зусім не Ленін, а Ульянаў. Па-другое, Сталін - гэта не Сталін, а Джугашвілі. Па-трэцяе, Вялікая Кастрычніцкая рэвалюцыя зусім не з'яўлялася вялікай і хоць яна і кастрычніцкая, але святкуецца чамусьці ў лістападзе. І, па-чацвёртае, не можа яна быць сацыялістычай, бо была камуністычнай.**

**Святкавала**
**Юлія Іваноўская**

# Не колькасцю, а якасцю

**7-8 лістапада Гродна наведаў сакратар Управы Сойма Кансэрватыўна-Хрысціянскай Партыі - БНФ Алесь Чахольскі. Карэспандэнт газеты звярнуўся да госця з шэрагам пытанняў.**



Алесь Чахольскі

- Мой прыезд у Гродна найбольш звязаны з праблемамі мясцовага партыйнага будаўніцтва. Сёння ў вобласці структуры нашай партыі пакуль што адсутнічаюць у двух раёнах - Шчучынскім і Берастаўскім. Аднак прымаюцца захады, каб паправіць становішча. Пастаўлена задача паўсюдна аднавіць структуры Фронту. Што да прыхільнікаў, то знаходзім іх сярод актывістаў дэмакратычнага грамадскага жыцця. Шмат хто выдатна зарэкамендаваў сябе ў час правядзення мітынгаў, распаўсюджванні ўлётак, прымаў удзел у акцыях партыі, праведзеных у Менску. Мы глядзім на практычныя дзеянні чалавека. Хопіць словаў, нагаварыліся...

***- Цяпер часцяком можна пачуць, што Зянон Пазьняк, маўляў, уцёк за мяжу, жыве сабе, бяды не ведае, а вы тут змагайцеся з рэжымам, штрафы плаціце, да турэмных нараў прызвычайвайцеся. Усялякія тлумачэнні да ўвагі не прымаюцца.***

- Разумее той, хто хоча разабрацца па сутнасці. Не буду паўтараць вядомае, адзначу хіба што наступнае. Мы валодаем інфармацыяй, што ў 1996 годзе супраць Зянона Станіслававіча рыхтаваліся дзве подлыя правакацыі. Вынік чакаўся адзіны - смерць лідара Беларускага Народнага Фронту. Прадугледжвалася аўтакатастрофа. Калі гэты выпадак не прынёс бы плёну, як запасны варыянт планавалася забіць папулярнага палітыка на адным з масавых мітынгаў. Органы дзяржаўнай прапаганды адразу атрымалі б заданне ўбіваць у свядомасць людзей, што трагедыя - унутраная справа апазіцыі, што гэта «свае» разборкі на вышэйшым узроўні БНФ «Адраджэньне».

Знікненне і смерць асобных вядомых грамадскіх дзеячаў нашай краіны сведчаць аб рэальнасці існавання пагрозы жыццю цяперашняга кіраўніка Кансэрватыўна-Хрысціянскай Партыі - БНФ. Зянон Пазьняк вернецца, як толькі зрабіць гэта дазволяць падзеі ў Беларусі.

***- Сёння Кансэрватыўна-Хрысціянская Партыя - БНФ не мае ніякіх стасункаў з іншымі прагрэсіўнымі партыямі Беларусі. Ці не шкодзіць гэта агульнай справе: змаганню за незалежнасць краіны?***

- Мы лічым, што нельга супрацоўнічаць з людзьмі, для якіх сэнс словаў незалежнасць і дэмакратыя - толькі чарговыя фішкі для дасягнення сваіх вузкіх карысных мэтаў. У перспектыве гэта прыход да ўлады любым спосабам. А зараз ім неабходна мільгаценне на старонках друку, скандальная хроніка, няўклюдныя спробы зрабіць нешта значнае, ідэалагічна каштоўнае найперш для заходніх інвестараў-грантадаўцаў, якія дагэтуль яшчэ не разабраліся, хто ёсць хто на Беларусі. Дзіўна, але дазволеныя ўладамі сходкі так званай аб'яднанай апазіцыі на Богам забытай менскай плошчы Бангалор адкрылі вочы моладзі. Хлопцы і дзяўчаты далучаюцца да нас. А вось сур'ёзныя дзядзькі з краінаў Захаду ніяк не жадаюць зняць свае акуляры са шкельцамі самых розных светлых адценняў.

***- Сходы, дэманстрацыі, мітынгі апазіцыйных сілаў таксама сведчаць не толькі пра наяўнасць іншадумства ў краіне. Пэўным чынам гэта аб'ядноўвае апазіцыю. Калі не займацца прапагандай сваіх перакананняў рознымі сродкамі і спосабамі, то што застаецца?***

- Канкрэтная работа з людзьмі, што называецца, вочы ў вочы. Наша партыя лічыць, што галоўным сёння зяўляецца змаганне за незалежнасць Беларусі. Адсюль і арганізацыя бестэрміновага збору подпісаў у абарону гэтага найважнейшага набытку грамадства. Ужо сабрана больш як 37 тысячаў. Толькі ў Гродне сябра нашай партыі Часлава Семяновіч сабрала звыш 2,5 тысяч подпісаў. Копіі гэтых дакументальных сведчанняў адсылаюцца ў розныя міжнародныя арганізацыі.

***- Каб дайсці да кожнага чалавека, трэба мець свае газеты, не кажучы пра іншыя СМІ. Дэмакратычныя партыі Беларусі да гэтага часу не вылучаюцца актыўнасцю ў гэтым сэнсе. Праўда, дзе-нідзе выдаюцца бюлетэні дазволеным законам накладам у 299 асобнікаў...***

- Сціплы бюлетэнь таксама можа мець моц, калі змяшчаць патрэбную інфармацыю. На вялікую газету неабходна здабыць вялікія грошы. У нас іх няма. Таму магчымасць друкаваць бюлетэні выкарыстоўваюць, напрыклад, першасныя суполкі ў Наваполацку, Гомелі, Воршы, Бабруйску. Цяпер мы рыхтуем да выдання буклет пра нашу партыю. Напярэдадні выбараў у так званую палату прадстаўнікоў надрукавалі і распаўсюдзілі звыш аднаго мільёна ўлётак з заклікам да грамадзянаў не ўдзельнічаць у фарсе.

Увогуле, за год існавання мы прааналізавалі падзеі ў БНФ. Пакуль што даходзілі ў працы да кіраўніцтва нашых арганізацыяў у раўцэнтрах і вялікіх гарадах. Па-за ўвагаю заставаліся простыя шэрагоўцы. Цяпер гэтая сувязь аднаўляецца. Кожная суполка атрымлівае неабходныя інфармацыйныя матэрыялы.

Змянілася практыка працы Сойму Кансэрватыўна-Хрысціянскай Партыі - БНФ. Наладжаны канструктыўныя ўзаемадносіны. Агульную мову апаратыўна знаходзяць каля дзесяці кандыдатаў навук, прафесары. Як ніколі, цяпер у Сойме шмат жанчын. Прынятыя рашэнні выконваюцца, бо існуе строгі кантроль. Асаблівую ўвагу ў рабоце надаем рэгіянальным арганізацыям.

**Гутарыў**
**Антон Лабовіч**

# «Палатнікаў» падтрымаў толькі адзін з пяці выбаршчыкаў

**Афіцыйныя вынікі выбараў выявілі «грымасы беларускай дэмакратыі», як сказалі б у часы камуністычнай прапаганды.**

Не з'явілася на другі тур выбараў у Гродне 17716 чалавек альбо 54,3 працэнта ад усіх выбаршчыкаў. Менавіта гэты працэнт трэба лічыць падобным да сапраўднай колькасці тых, хто прыняў удзел у галасаванні таксама і ў першым туры (бо ў другім туры не было такога прымусу з боку рэжыму; зноў жа, былі падкарэктаваныя спісы выбаршчыкаў у бок змяншэння іх агульнай колькасці).

Галасавала за выбранне дэпутатаў 34,4 працэнта выбаршчыкаў. Супраць усіх кандыдатаў пададзена 24,7 працэнта бюлетэняў, а 3172 чалавекі сапсавалі бюлетэні, дый яшчэ 166 чалавек увогуле забралі бюлетэні з сабою.

Такім чынам атрымалася, што дэпутаты былі абраныя ўсяго толькі пятай часткай насельніцтва. Так, за Бураву пададзена 18,1 працэнта галасоў, за Лосева - 18,7 працэнта, за Камянецкага - 19,4 працэнта.

Гэтыя вынікі паказваюць, што падтрымка ўлады ў Гродне складае не больш пятай часткі насельніцтва (а, калі ўлічыць маніпуляцыі, зробленыя выбарчымі камісіямі, то яшчэ меней.

Мэр горада Анатоль Пашкевіч, гледзячы на такія сумныя вынікі, вырашыў зняць з сябе адказнасць. Гарвыканкам звярнуўся да цэнтральнай выбарчай камісіі, каб тая змяніла форму бюлетэня і спосаб вызначэння на ім асобы кандыдата. Маўляў, вінаваты ва ўсім клеркі ў Менску, якія прыдумалі няправільны ўзор бюлетэня.

Аднак, рэчаіснасць, як яе не ўтойвалі, вылезла на паверхню. Сацыяльны рэсурс рэжыму зменшыўся да крытычных велічыняў. Не пра бюлетэні трэба думаць хітрунам з «вертыкалі», а пра тое, як без страты пераджыць змену ўлады.

**Сяргей Самасей**

# Брузгі адкрыюцца апоўначы

**З 0 гадзін 15 лістапада будзе адкрыты памежны пераход Брузгі - Кузьніца. Інфармацыя пра гэта днямі была распаўсюджаная афіцыйным польскім бокам. Пераход будзе адкрыты для ўсіх відаў транспарту без абмежаванняў.**

Нагадаем, што апошнія тры месяцы гэты памежны пераход быў закрыты ў сувязі з рэканструкцыяй польскага ўчастку памежнага пераходу. Людзі былі вымушаныя перасякаць мяжу на пераходзе Пагранічны - Баброўнікі, што займала часу ў два разы болей, чым звычайна.

За гэтыя тры месяцы польскія будаўнікі паспелі толькі падрыхтаваць будаўнічыя пляцоўкі як з правага, так і з левага боку ад асноўнай дарогі. Пра складанасць працаў можна меркаваць хаця б па наступнай лічбе: давялося перамясціць звыш дзвюх тысяч кубаметраў зямлі. Усяго за гэты час было асвоена больш за 100 тысяч даляраў капітальных укладанняў. Гэта грошы, якія Еўрасаюз выдаткаваў Польшчы на мадэрнізацыю ўсходняга ўчастку польскай мяжы. Днямі на памежны пераход прыязджаў адказны чыноўнік з ЕС, які агледзеў зробленае і даў цвёрдыя гарантыі, што фінансаванне будзе працягнута.

Іншая справа - беларускі ўчастак гэтага пераходу. Як вядома, паводле дамовы, больш за 70 працэнтаў укладаемых сюды сродкаў дае Расея, якая не заўсёды своечасова фінансуе гэтыя работы.

Разам з тым ёсць пэўныя падставы для аптымізму і беларусам. Ужо быў абвешчаны тэндэр на мадэрнізацыю беларускага ўчастка пераходу Брузгі-Кузьніца. Яго выйграла гарадзенская фірма «Гроднапрамбуд». Аднак, калі пачнуцца работы, - невядома.

Мадэрнізацыю ж свайго ўчастку палякі плануюць скончыць у 2003 годзе, аднак, дзеля гэтага неабходна будзе закрыць пераход яшчэ раз. І гэта хутчэй за ўсё адбудзецца ў траўні-чэрвені 2002 года, бо акурат у гэты час трэба будзе зніжаць узровень існуючай дарогі. У асобных месцах - нават да шасці метраў. Гэта трэба для таго, каб вывесці яе на адзін узровень з дарогай, якая пачынаецца ў польскім населеным пункце Кузьніца.

Прапускная здольнасць рэканструяванага пераходу не зменшыцца. У суткі памежнікі здольныя афармляць 2-2,5 тысячы транспартных сродкаў і 8-10 тысяч пасажыраў.

Мытны і памежны кантроль на пераходзе, як і раней, будзе ажыццяўляцца на беларускім баку сумесна палякамі і беларусамі.

Вельмі значным для жыхароў Гарадзеншчыны з'яўляецца тое, што польскі і беларускі бакі дамовіліся працягваць функцыянаванне пераходу Пагранічны - Бабpоўнікі. Тут будуць афармляцца ўсе віды транспарту, акрамя аўтобусаў.

Такім чынам, з 15 лістапада Гарадзеншчына займее на мяжы з Польшчай два раўназначныя прапускныя пункты.

**Павал Мажэйка**

# Бутэлечныя жарсці для жабракоў

**Праблема з прыёмам шклатары вядзе свой радавод з даўніх савецкіх часінаў, задоўга да таго, як вытворцы айчынных бутэлек і слоікаў дастасаваліся да еўрастандарту. У застойныя гады часцяком ля пунктаў прыёму шклатары выстройваліся кіламетровыя чэргі, неадназразова змяняліся патрабаванні нарыхтоўшчыкаў, а таксама кошты посуду. Але і сённяшняя сітуацыя з прыёмам шклатары таксама выклікае ў насельніцтва шмат нараканняў.**

Гадоў трыццаць таму савецкія бутэлькі адрозніваліся паводле формы (адпаведна і змесціва) ад еўрапейскіх. Але ў крамах прадавалася шмат папулярных у спажыўцоў балгарскіх і венгерскіх сокаў. Зразумела, іх пасля нідзе не прымалі. У тыя часы наш горад інтэнсіўна разбудоўваўся. І людзі цэлымі мяхамі разам з іншым смеццем скідалі пустыя пляшкі ў каналізацыйныя траншэі, катлаваны новабудоўляў ды цеплатрасы. Пасля дастасавання да еўрастандарту бутэлька з-пад піва (0,5л) каштавала 12 капеек, а так званы «фаўст» (0,7л) - 17 капеек.

Сёння бутэльку з-пад піва прымаюць па 45 рублёў, каньячную - па 55, а шрубаваную з-пад гарэлкі - па 60 рублёў. Аднак тут ёсць свае нюансы. Напрыклад, у адных крамах прымаюць толькі ўзамен (маўляў, няма тары), у іншых - на выбар (сёння - адныя пляшкі, заўтра - другія). Ды яшчэ, выяўляецца, бяруць не ўсе шрубаваныя бутэлькі з-пад гарэлкі. Сам неадночы быў сведкам лаянкі паміж кліентамі і прадаўцамі віна-гарэлачных аддзелаў у гарадскіх крамах. Прадаўцы ўважліва агледалі не толькі ці няма драпінаў на бутэлечным рыльцы, але з паважным выглядам даследчыка-натураліста вывучалі надпісы і знакі на донцы. Калі тыя былі не да спадобы, пляшкі проста не прымалі. І знерваваныя кліенты мусілі цягнуць свой «крышталь» куды вочы глядзяць.

Цікава тое, што на донцы шрубаваных гарэлачных пляшак існуе шмат разнастайных знакаў, на якія звычайны спажывец і ўвагі не звятае. Бутэлькі з надпісам MADE IN BELARUS, літарай G у квадраце з рысачкамі, пяцікутнай зорачкай у ротоpце, круглымі стрэлкамі ды іншымі забаўнымі значкамі не прымаюць. Хаця яны, у прынцыпе, нічым між сабою паводле формы і аб'ёму не адрозніваюцца. Па тлумачэнні я звярнуўся да адміністрацыі крамы «МОКА», што па вуліцы Горкага. Мне паказалі Прадпісанне ад 10 ліпеня і дадатак да яго ад 4 верасня, якія Гарадзенскі лікёра-гарэлачны завод разаслаў у Аблспажыўсаюз і Гархарчгандаль, а тыя адпаведна па інстанцыях. З прадпісання можна зразумець, што вытворцы моцных напояў будуць прымаць адно бутэлькі з празрыстага шкла з надпісам на донцы «0,5». Астатнія, што называецца, вэкеншэйн!

Гэта не столькі суцэльнае глупства, колькі элементарнае ашуканства! Купляючы ў краме гарэлку, мы плоцім тыя самыя залогавыя 60 рублёў, якія нам пасля ніхто не верне. А для вытворчасці гэта дзесяткі тысяч бутэлек! Зразумела, каб Гарадзенскі лікёра-гарэлачны завод выпускаў сваю папулярную прадукцыю адно ў тых бутэльках, якія прыме назад. А ж не, «Юбілейную», «Польку», «Пшанічную», «Гародню» прадаюць у крамах у тых бутэльках, якія назад ніхто ўжо не прыме. Так што нехта на залогавым коште добра жыруе.

Каб пасля не грызціся з прадаўшчыцамі ў крамах з-за некалькіх парожніх пляшак, патрабуйце, каб яны вам прадавалі тыя бутэлькі, якія прымуць назад. Я ўжо эксперыментаваў. Дык прадаўшчыцы давялося перагарнуць не адну скрыню, каб знайсці тое, што трэба.

**Марцін Каламутны**

# Гарадзенскія фірмы вымушаныя выплочваць «падаткі»

Гарадзенскія ўлады чарговы раз прапануюць фірмам і прадпрыемствам гораду паўдзельнічаць у добраўпарадкаванні гораду. Гэтым разам гандляры павінны аплочваць капітальны рамонт вуліцы Антонава. Да гэтага камерцыйныя структуры фінансавалі рэканструкцыю Цэнтральнага рынку. Зразумела, інфармацыю пра падобныя «аброкі» супрацоўнікі камерцыйных структураў успрымаюць без асаблівага энтузіязму. Тым не менш, грошы пералічваюць - дзеля спакою.

**БАРЦ**

# Зноў падаражэў праезд

З 4 лістапада падаражэў міжгародні ды прыгарадны праезд. Кошт квіткоў падвысіўся на 30 працэнтаў. Так, да 5 лістапада адзін кіламетр праезду на міжгароднім мяккім аўтобусе каштаваў 10,5 рубля, а зараз - 13,7 рубля. Калі раней вы дабіраліся да Менску за 3 140 рублёў, то цяпер вам гэта будзе каштаваць 4 090 рублёў. Апошні раз падаражанне праезду было ў жніўні гэтага года.

**Алеся Сідлярэвіч**

# Абвешчаны конкурс «Міс універсітэт - 2000»

28 снежня адбудзецца фінал конкурсу «Міс універсітэт - 2000». Абранымі будуць не толькі міс, але дзве віцэ-міс і міс сімпатыяў гледачоў. Канкурсанткі павінны прайсці адбор ў пяці намінацыях: грацыі-дэфіле, прадстаўленні сябе (30 секунд), інтэлектуальны конкурс, конкурс мадэляў і артыстычнага майстэрства. У фінал патрапяць 16 дзяўчат. Пераможцам абяцаны каштоўныя падарункі.

**М.Капнёў**

# Выйшаў сыгнальны паасобнік кнігі Зянона Пазьняка

У Вільні выйшаў сыгнальны паасобнік кнігі Зянона Пазьняка «Глёрыя патрыя». У кнізе знаны палітык выступае ў новым амплюа - сюды ўвайшлі ягоныя фота-вершы, зробленыя на працягу 80-х гадоў. Кніга мелася выйсьці яшчэ ў 1996 годзе. Але пасьля таго, як Зянон Пазьняк апынуўся за мяжою, гэта стала немагчымым. Ідэя кнігі належыць Уладзімеру Арлову - менавіта ён угаварыў Зянона Пазьняка надрукаваць свае вершы і фотаздымкі й нават сам адабраў вершы на друк. Прадмову да кнігі напісаў Рыгор Барадулін. У хуткім часе зьявіцца ўвесь наклад.

# 10 гадоў каталіцкай духовай сэмінарыі

10-гадовы юбілей днямі адзначыла Гарадзенская каталіцкая духовая сэмінарыя. З гэтай нагоды ў Фарным касьцёле адслужылі сьвяточную імшу. На набажэнстве прысутнічалі 12 біскупаў і мноства сьвятароў з Польшчы, Расеі ды Украіны. За час існаваньня сэмінарыі яе пасьпелі скончыць 69 сьвятароў, якія працуюць зараз па ўсёй Беларусі.

**БАРЦ**

# Спадар Лукашэнка! Не зневажайце маіх землякоў!

## Адкрыты ліст Аляксандру Лукашэнку Сямёна Домаша, сябры Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 13-га склікання, былога старшыні Гарадзенскага аблвыканкама і абласнога Савета дэпутатаў

**Апошнім часам Вы ўсё часцей прапагандуеце дасягненні народнай гаспадаркі Рэспублікі Беларусь перыяду Вашага праўлення і пры любым зручным выпадку спрабуеце публічна абняславіць вынікі мінулых гадоў, а заадно і людзей, якія некалі працавалі ва ўладных структурах, а зараз не з Вамі.**

У прыватнасці, на праводзімых Вамі як ніколі пампезных «Дажынках» у Шклове пры ўзнагароджванні кіраўніцтва Гарадзенскай вобласці Вы заявілі, што «вобласць зараз дасягнула найвышэйшых паказчыкаў, а пяць гадоў таму яе сельская гаспадарка была развалена, палі запушчаныя, на іх страшна было глядзець»...

Дапускаю, што ў Вас няма часу, а магчыма, і жадання хаця б пагартаць статыстычныя зборнікі, каб Вашыя сцвярджэнні гучалі больш-менш праўдападобна. Хутчэй за ўсё, Вам гэта і не патрэбна, бо ўсе Вашыя домыслы ўдзячныя чыноўнікі «вертыкалі» прымаюць без пярэчанняў. У адрозненне ад іх, не магу пагадзіцца з тым, што не адпавядае рэчаіснасці і зневажае маіх землякоў. Сваёй шматгадовай працай, адносінамі да зямлі яны не заслужылі такой ацэнкі.

І таму хачу публічна паспрачацца з Вамі на прадмет таго, што ж апошнім часам адбываецца ў сельскай гаспадарцы - дэградацыя ці рост? Адказ на гэтае пытанне вядомы большасці людзей, якія не па чутках ведаюць стан справаў у сельскай гаспадарцы. Нават ў нешматлікіх сёння моцных калгасах спецыялісты скажуць, што сельскагаспадарчая вытворчасць, вёска наогул шчыльна падышлі да небяспечнай рысы дэградацыі і банкруцтва. А многія гаспадаркі нават перасягнулі гэтую ракавую рысу. У тым ліку і на Гарадзеншчыне з яе некалі досыць развітым аграпрамысловым комплексам, які і зараз захоўвае рэшткі былой магутнасці. Ранейшы патэнцыял, даўно і, канешне ж, не пры сённяшніх кіраўніках вобласці створаны, яшчэ не цалкам імі растрачаны, і дазваляе пакуль гарадзенскай вертыкалі ганарыцца сваімі «дасягненнямі».

Не буду зараз аналізаваць гістарычныя, сацыяльныя і кадравыя прычыны гэтага адноснага і раней, і зараз дабрабыту. Але адно бясспрэчна: і пяць, і дзесяць, і дваццаць гадоў таму наша Гарадзенская вобласць была лідарам і ў былым СССР, і ў БССР, а потым і ў падначаленай Вам Рэспубліцы Беларусь па ўсіх паказчыках работы аграпрамысловага комплексу.

Іншая справа, што планка гэтых паказчыкаў з часам апускалася ўсё ніжэй. І пункт адліку абсалютнага падзення, з якога нібыта распачаўся прадэкляраваны Вамі на «Дажынках» уздым загубленай пяць гадоў таму сельскай гаспадаркі Гарадзеншчыны, абраны досыць адвольна і тэндэнцыйна. Хаця, павінен прызнаць, зроблена гэта Вамі ўмела. Намёк на тое, што гэта былі гады, калі вобласць узначальваў Домаш, не Ваш прыхільнік ні тады, ні, тым больш, зараз.

Сапраўды, з восені 1993 па снежань 1994 года я працаваў старшынём Гарадзенскага аблвыканкама, а потым, да траўня 1996-га, - старшынём абласнога Савета дэпутатаў.

З гэтым публічным лістом, мяне, чалавека з немалым досведам працы кіраўніком вытворчых калектываў ў сельскім раёне і ў горадзе, чалавека, які прайшоў выпрабаванне сур'ёзнымі пасадамі ў структурах дзяржаўнага кіравання, ператвораны Вамі зараз у маўклівую вертыкаль, сябры прэзідыума разагнанага Вамі Вярхоўнага Савета 13-га склікання, прымусіла звярнуцца напраўду катастафічная сітуацыя ў сельскай гаспадарцы, на што Вы спрабуеце заплюшчыць вочы людзям. На Гарадзеншчыне гэтая сітуацыя мала адрозніваецца ад агульнай па краіне. Хаця Вы разам з «вертыкальшчыкамі», што служаць Вам не за сумленне, а за страх, спрабуеце даказаць адваротнае ды малюеце беларусам малочныя рэкі з кісельнымі берагамі. Не сёння, маўляў, дык заўтра, яны б ужо залілі Беларусь, калі б не падкопы злашчаснай апазіцыі. А на Гарадзеншчыне, выяўляецца, яшчэ і Домаш у свой час не тую спадчыну пакінуў яе сённяшняму кіраўніку - тады былому старшыні знакамітага «Прагрэса», мадтвопытнаму гаспадарніку Аляксандру Іосіфавічу Дубко, вымушанаму зараз, паводле вашай версіі, старанна ачышчаць палі, дарэчы, і ўягонай гаспадарцы, калі верыць Вашым словам, пяць гадоў таму «зарослыя» пустазеллем.

Зрэшты, пакінем на сумленні Аляксандра Іосіфавіча яго маўклівую згоду з гэтай версіяй, зневажальнай не толькі для Домаша, колькі наогул для вобласці, яе кадраў-аграрыяў, з якімі я разам працаваў і па-ранейшаму глыбока паважаю. Для Дубко гэта таксама знявага і публічная абраза. Хіба ж ён, што маўкліва праглынуў прэзідэнцкую пілюлю, не ведае сапраўднага былога і сённяшняга стану справаў у сельскай гаспадарцы вобласці, прычыны яе натужлівых сённяшніх «поспехаў» і рэальных правалаў?

**(Працяг на стар.4)**

ГІСТОРЫЯ

# "Добры быў пан..."

## Раман Скірмунт ва ўспамінах жыхароў в.Парэчча Пінскага раёну

**Раман Скірмут (1868-1939) - краёвец падчас рэвалюцыі 1905-1907 гг., Старшыня Беларускага Нацыянальнага Камітэту (1917 г.), прэм'ер-міністр БНР (1918 г.) - адна з найбольш цікавых і загадковых постацяў беларускай гісторыі пачатку XX ст. Ні забойства Скірмунта ў 1939 г., ні старанная выкрэсліванне ягонага імя з падручнікаў па гісторыі ў савецкі час не здолелі цалкам знішчыць памяць пра яго.**

**У жніўні 2000 г. удзельнікі гісторыка-культуралагічнага студэнцкага семінару з Гародні пры падтрымцы Гарадзенскага грамадскага аб'яднання "Ратуша" арганізавалі экспедыцыю ў былыя маёнткі Скірмунтаў у вв. Парэчча Пінскага раёну і Моладава Іванаўскага раёну Берасцейскай вобл. Адной з мэтаў экспедыцыі быў збор успамінаў, звязаных з асобай Рамана Аляксандравіча Скірмунта. Нас цікавілі абставіны асабістага жыцця, гаспадарчая дзейнасць, адносіны з жыхарамі вёскі, і, канешне, трагічныя падзеі верасня-кастрычніка 1939 г.**

Сярод сёняшніх жыхароў Парэчча жыве памяць пра Скірмунтаў. Намаганнямі трох пакаленняў роду Скірмунтаў гэты куток Палесся стаўся адным з буйных прамысловых цэнтраў поўдня Беларусі. Распачаў гаспадарчыя пераўтварэнні Аляксандр Сымонавіч Скірмунт. Першым прамысловым прадпрыемствам у Парэччы стала суконная фабрыка, заснаваная ў 1836 г. У 70-80-я гады 19 ст. кошт прадукцыі гэтай фабрыкі складаў штогод каля 300 тыс. руб. Сукно з Парэчча неаднаразова атрымлівала медалі на міжнародных выставах. У 1860 г. у вёсцы пачаў дзейнічаць цукровы завод. Пазней былі заснаваны бровар і крухмальны завод, налажана меліярацыя прылеглай да маёнтку поймы р.Ясельды, распачалося вытворчае ўзнаўленне лесу і г.д. Варта адзначыць таксама разумную сацыяльную палітыку ўладальнікаў Парэчча. Аляксандр Сымонавіч Скірмунт утрымліваў лекара і шпіталь на 12 месцаў. У Парэччы будаваліся дамы для сямейных рабочых, інтэрнаты – для несямейных. Аляксандр Аляксандравіч Скірмунт прыняў актыўны ўдзел у падрыхтоўцы адмены прыгоннага ладу. Ён жа ператварыў адзін з фабрычных будынкаў ва ўласную сямейную рэзыдэнцыю. Менавіта ў ёй у красавіку 1868 г. нарадзіўся сын Раман, якому суджана была стаць вядомым палітычным дзеячом Беларусі.

Практычна ўсе суразмоўцы згадвалі Рамана Скірмунта вельмі добра. Распавядалі, што "пан" сам шмат фізічна працаваў. Сяляне бачылі, як уладальнік маёнтка пілаваў крывыя дрэвы, абразаў або абрубаў сухія галіны дрэваў у лесе і ў парку: "Памешчык кожны дзень на работу выязджаў. У яго быў тапорык, пілачка была. Ён працаваў, не то што якія..."* (Хведар Лукашык, 1922 г. нар.).

Парк быў прадметам асаблівай увагі Рамана Аляксандравіча, які сам заснаваў яго яшчэ на пачатку XX ст. Гэта быў парк у ангельскім стылі, які не меў дакладна пазначаных межаў і стаўся неад'емнай часткай навакольнага ландшафту. Парк перасякалі каналы з перакінутымі праз іх і выгнутымі ў дугу масцікамі. Галоўная алея, якая цягнулася з поўначы на поўдзень і ўкліньвалася ў прылеглы лес, дзяліла парк на дзве часткі. Найбольш цікавай была заходняя, перарэзаная дзесяткамі шляхоў і сцежак, большасць з якіх вяла на бераг ракі. Тут былі пасаджаныя дубы з дамешкам ясеней, клёнаў і вязаў, раслі шматлікія экзатычныя гатункі, як, напрыклад, цюліпанавае дрэва, балотны кіпарыс, лістоўніца Кэмпфера, піхты, чырвоныя дубы, канадскія яліны і яліны Энгельмана ды інш. Усяго звыш 30 відаў дрэў. Усе дрэвы мелі таблічкі з дакладнай батанічнай назвай. У парку жылі розныя віды жывёл і цэлыя роі балотных птушак, для якіх будаваліся спецыяльныя хаткі. Парк упрыгожвала сажалка з невялікім астраўком. Тут разводзілі рыбу. Ад Ясельды яе аддзяляла дамба, а вада качалася з дапамогай ветранога рухавіка, які называлі "жураўлём". "Там было красіво, жывая прырода была" (Х.Лукашык). Раман Скірмунт любіў адпачываць у парку. Найчасцей яго можна было ўбачыць на лаўцы каля вялікага камня на перакрыжаванні некалькіх сцяжынак.

Паводле аповядаў да сялянаў, Раман Аляксандравіч ставіўся вельмі добра. Людзі згадвалі, што часта вітаўся першым, аказваў дапамогу асабліва для будаўніцтва, дазваляў касіць траву ("даваў сенакос"), рабіў падарункі на святы, "пагэтаму людзям вельмі падабалася ў яго працаваць, і яны ніколі ад яго не ўходзілі" (Марыя Нікалайчык, 1920 г.нар.). Трапіць да "пана" было проста: "Пастукаемся і зойдзем. Не тое, што зараз. Не дабрацца да якога прэдсэдацеля... А тады: "Паночку, так і так, дзело ёсць". І ён дапамагаў. Ён в последнее время ці што чуствоваў, але хацеў раздаці мужыкам зямлю. Аказваецца не дала яму гэта зрабіць новая ўлада" (Рыгор Цярэшка, 1932 г.нар.). Версію пра зямлю пацвердзіла Анастасія Вакульчык (1911 г.нар.), якая між іншым распавяла, што напрыканцы 30-ых гадоў Раман Скірмунт пачаў надзяляць сялян зямлёй. Часта гэта рабілася, як вясельны падарунак "маладым".

Адраджаць прамысловасць, разбураную ў першую сусветную вайну, уладальнік маёнтку не стаў. Хаця мажлівасць была. Аднойчы прыехала група нямецкіх прадпрымальнікаў, якія прапанавалі адбудаваць суконную фабрыку, вывезеную нямецкімі акупацыйнымі ўладамі з Парэчча ў 1915 г. Раман Скірмунт адмовіўся, нібыта заявіўшы: "Раз забралі, то не хачу болей, каб і будавалі" (А.Вакульчык).



Раман Скірмунт. Здымак 1923 году

Цікава, што адносіны Рамана Скірмунта да сялян часта параўноўваліся суразмоўцамі з паводзінамі "моладаўскага пана". Параўнанне заўсёды было на карысць Рамана Аляксандравіча: "У Моладаве быў худшы пан. Бывае і сабакамі нацкуе" (Р.Цярэшка) або "Моладаўскі пан лесу не даваў, нават пагарэльцам казаў, што знарок хату спалілі" (Х.Лукашык). Моладаўскім маёнткам напрыканцы 30-х гадоў кіраваў Гэнрык Скірмунт. У маёнтку таксама жыў Канстанцін Скірмунт, былы сябра Дзяржаўнай Рады Расеі і былы міністр замежных справаў II Рэчы Паспалітай, часта хварэў і ў справы маёнтка не ўмешваўся.

Усе суразмоўцы адзначалі, што Раман Скірмунт размаўляў з сялянамі па-беларуску (Вольга Чугай, 1910 г.нар. : "Па-нашаму"; А.Вакульчык: "Па-простаму"; Р.Цярэшка: "Гаварыў па-простаму более-менее, трошкі па-польску, як пан").

Адной з найбольш цікавых знаходак быў аповяд пра асабістае жыццё Р.Скірмунта. Як вядома, ён ніколі не ажаніўся і не меў дзяцей ад шлюбу. Але каханне, безумоўна, было ў ягоным жыцці. Тэрэза Скірмунт, якая зараз жыве ў Варшаве, аднойчы (1998) у размове згадала, што некалі бачыла лірычны верш Рамана Скірмунта, напісаны на беларускай мове. Магчыма, мы знайшлі жанчыну, якой быў прысвечаны гэты верш. Па меншай меры, вынікі экспедыцыі дазваляюць казаць, што даволі значнае месца на працягу доўгага часу ў жыцці вядомага палітыка і грамадскага дзеяча займала Кацярына Цярэшка (Цярэшчанка?): "Баба красівая была. Самы гады такі пад яго... То засакрэчана любоў" (Марыя Кучыньская, 1919 г. нар.). Муж Кацярыны памёр на самым пачатку XX ст. А ў 20-ыя гады яна ўжо пастаянна жыла ў маёнтку. Людзі распавядалі пра чатырох сыноў Кацярыны – Аляксандра (Олеся), Рамана, Уладыслава і Пятра (Петруся). У вёсцы казалі, што гэта сыны Рамана Скірмунта. Яны нарадзіліся на пачатку стагоддзя. Малодшы прыблізна ў 1912 г. Усе атрымалі адукацыю, жылі і працавалі ў маёнтку.

Олесь, старэйшы з братоў, ажаніўся на дзяўчыне з Парэчча, якую называлі "камуністкай", бо аднойчы ў нейкай справе яна выступіла супраць Скірмунта. Пасля вяселля Олесь прыйшоў да Рамана Аляксандравіча прасіць лес на будоўлю хаты. Але нічога не атрымаў. Раман Скірмунт быў моцна незадаволены шлюбам: "Я ж табе казаў: не бяры Гэлю" (Р.Цярэшка). Маладыя перабраліся ў суседнюю вёску Тышкавічы, знайшлі сабе жыллё. Олесь наладзіў кузню, жонка аказалася неблагой краўчыхай. А Раман Скірмунт, калі даведаўся, што жывуць яны добра, сам прапанаваў Олесю ўзяць лес на пабудову ўласнай хаты. Гэты эпізод сведчыць пра нетыповы характар адносін паміж Раман Скірмунтам і Олесем (Аляксандрам) Цярэшкам. Лёс сыноў Кацярыны Цярэшкі склаўся па-рознаму. Олесь памёр яшчэ ў 30-ыя г. Раман быў арыштаваны НКВД і загінуў у Сібіры. Петрусь з'ехаў у Польшчу...

Мы здолелі натрапіць нават на след пэўнага легендарнага эпасу, звязанага з асобай уладальніка Парэцкага маёнтку. Людзі распавядалі, што Р.Скірмунт мог спыніць пажар: "У Чамярыне гарэла хата. Ён пажар абег, і ўсё... Пажар далей не пойдзе. Ахвяраў няма. А што ён знаў, я не знаю" (Х.Лукашык); "Калі адбываўся пажар, то Скірмунт сам выязджаў туды. Заўсёды абыходзіў пажарышча, і агонь далей не ішоў. Людзі цікавіліся ягоным сакрэтам, але ён нікому гэтага не казаў" (М.Нікалайчык); "Іконы здымаў і абыходзіў пажар. Нешта знаў такое". (Р.Цярэшка); "Некалі, я вам скажу, хлеў загарэўся. І пайшло, і пайшло гарэць. І прыехаў пан, стаў, рукі злажыў – і сціхло. Вецер прыціх. Ціхэнько, ціхэнько... (А.Вакульчык).

Апошнюю паслугу жыхарам Парэчча Р.Скірмунт аказаў у верасні 1939 г., калі ўжо ішла вайна. Людзі распавялалі, што група парэчскіх мужыкоў, убачыўшы здаля браніраваны цягнік з салдатамі, пайшла іх сустракаць з чырвоным сцягам. Але аказалася, што гэта быў польскі атрад, які распачаў страляніну па "ветлівых" гаспадарах. Мужыкі разбегліся. Некалькі чалавек было паранена. Распраўы з вёскай не дапусціў Раман Скірмунт, які пераканаў камандзіра атраду, што парэчскія мужыкі такога зрабіць не маглі: "Не трогайце паріччан!" (М.Кучыньска); "Кажа: Гэта маі людзі. Оні гэтаго не рабілі" (А.Вакульчык).

Праз некалькі дзён прыйшла Савецкая ўлада. Раман Скірмунт разам з мужам сястры Алены Баляславам Скірмунтам быў арыштаваны. Дапамогі ад людзей ён не дачакаўся. На пытанне, чаму ж Раман Скірмунт не з'ехаў, Марыя Кучыньская адказала: "Быў пэўны на свой народ, бо він яго не обіжаў. Ён мог уцячы, але думаў, што прыйдуць Саветы і разбяруцца". Яна ж распавяла, як паводзіў сябе Раман Аляксандравіч пасля арышту: "Ён хацеў так: Я ведаю, што ўжо не памешчык, такі ж рабочы, як і ўсе. Я буду рабіці, але трэба, каб прыйшло начальства... Ну, ідзіце, забірайце ўсё маё багацце. Но работайце. А я пасматру, як вы будзеце рабіць. Маладнякі шчэ ж вы, ніц не знаеце". Спадзяванне Рамана Скірмунта на з'яўленне высокага начальства, ягоныя надзеі на размову з гэтым начальствам пацвердзілі і іншыя суразмоўцы. Але гэтага спаткання не адбылося. "Начальства" (камісары Холадаў, Кавалёў і Маскалёў) сапраўды з'явіліся, але сустракацца з Р.Скірмунтам і не збіраліся. Падобна на тое, што менавіта яны (часцей суразмоўцы згадвалі Холадава) і загадалі забіць уладальніка маёнтка (Хведар Хвясюк, 1920 г.нар., А.Вакульчык).

Сярод парэччан знайшлі людзі, якія выканалі гэты злачынны загад. Суразмоўцы асуджалі іх: "А між людзьмі ўсякі ёсць. Е падхалімы такі" (Р.Цярэшка)"; "Людзі, што забілі Скірмунта, былі гулякамі, любілі выпіць, пагуляць" (Х.Хвясюк). Калі Рамана і Баляслава Скірмунтаў вялі на смерць, нехта з парэччан паспрабаваў заступіцца: "Што вы робіце? Куды вы яго вядзеце?". І пачуў у адказ: "Маўчы, бо і табе гэта будзе шчэ!" (А.Вакульчык). Марыя Нікалайчык згадала, што калі "пана" вялі забіваць, то мясцовыя жыхары плакалі, а "пан" казаў: "Я з вамі развітваюся назаўсёды. Спадзяюся, што нікому не зрабіў кепскага". У адказ на пытанне, чаму ж вы не абаранілі чалавека, людзі разводзілі рукамі і адказвалі прыблізна так: "А як жа абароніш? Нічога не зробіш!" (М.Кучыньская).

Кажуць, што перад смерцю Раману Скірмунту загадалі адвярнуцца ад забойцаў. Ён адмовіўся: "Я ад людзей адварочвацца не буду". І, быццам бы, дадаў: "Я б вам не саветаваў гэта рабіць, бо вы маладыя. Я ўжо аджыў свае гады". У аднаго з забойцаў (Ткачук), нават ружжо з рук выпала (А.Вакульчык). Але камісарскі загад быў выкананы.

І толькі пасля смерці Р.Скірмунта людзі адчулі страту: "І нашто забілі пана? Нашто? Ён бы прэдседацелем быў бы ў нас. Ён быў звязаны з Масквой, з усімі. Прыйдзеш да яго, няма ў цябе чаго, што папросіш – дасць. Ён не адказваў. Жэнішся – і поля троху ўрэжа" (М.Кучыньская).

Пазней, ужо ў часы нямецкай акупацыі прах Рамана і Баляслава Скірмунтаў быў перазахаваны. З месца забойства (т.зв. "Коранеўскі лес") целы забітых перавезлі ў парэчскі парк, дзе і пахавалі: "Было ўрачыстае пахаванне, але людзі баяліся выходзіць з дому. Глядзелі праз акенца. Ужо потым усе хадзілі да магілы" (М.Кучыньская).

У верасні 1939 г. побач у Моладаве ўзброены атрад, у якім пераважалі жыхары в.Мотыль, напаў на палац Скірмунтаў. Генрыка Скірмунта і яго сястру Марыю забілі. Ніна Шаталава (1927 г.нар.) распавяла, што перад смерцю Генрык звярнуўся да забойцаў: "Мяне ўбівайце, мяне ёсць за што... А яна ж (Марыя – *А.С.*) была добрая да вас". Людзі сапраўды згадвалі, што паважалі Марыю, хадзілі да яе за лекамі. Яна дапамагала і грашыма. Але забойцы не мелі літасці. У жывых застаўся толькі стары гаспадар Моладаўскага маёнтку Канстанцін Скірмунт. У гэты момант ён быў цяжка хворы, прыкаваны да ложку. Відаць, забойцы вырашылі, што гэты "пан" восьвось памрэ сам.

У 1939 г. распачаліся таксама рабункі скірмунтаўскіх маёнткаў. У Моладаве апроч палацу разрабавалі родавыя могілкі. Н.Шаталава згадала, што гэта рабілі не мясцовыя жыхары, а зняволеныя, якія прывезлі з усходу Беларусі дзеля будаўніцтва ваеннага аэрадрома. Па яе словах, менавіта яны разбівалі помнікі, раскопвалі магілы, шукаючы "скарбы". Пасля вайны гэтую справу працягваў дырэктар мясцовай школы: "А пасля наш дырэктар. Ён некі тожэ быў прыдурак. Разам з вучнямі выкапалі маладую жанчыну ды каля касцёла паставілі. Ды я нават хадзіла, сварылася... То яе назад потым паклалі" (Н.Шаталава).

Пасля рабунку ў Моладаўскім палацы зрабілі калгасную сядзібу, а ў касцёле – краму. Канчаткова і Моладаўскі, і Парэцкі палацы былі зруйнаваныя падчас ваенных дзеянняў савецка-германскай вайны. Прычым, у 1943г. партызаны ў Парэччы забілі апошнюю ўладальніцу маёнтку сястру Рамана Алену Скірмунт. Напад адбыўся ноччу. Пасля працяглага бою (у палацы апроч уладальніцы знаходзіліся чацвёра нямецкіх леснікоў) партызаны ўварваліся ў палац. Алену Скірмунт і немцаў захапілі і пасля страшэнных здзекаў забілі. Па словах Яўгеніі Балакіравай (1930 г.нар.), Алена прыняла пакутніцкую смерць.

На пачатку 90-х гадоў магілы Рамана, Баляслава і Алены Скірмунтаў у Парэччы, Марыі і Генрыка Скірмунтаў у Моладаве былі адноўлены. Галоўным ініцыятарам быў пінскі журналіст Вячаслаў Ільянкоў. Удзельнікі экспедыцыі пад кіраўніцтвам прафесара Анатоля Федарука паспрабавалі ўласнымі сіламі аднавіць зруйнаваныя родавыя могілкі Скірмунтаў у Парэччы. Але тым не менш дотык да гэтых трагічных старонак нашай гісторыі пакінуў сумнае ўражанне.

На знішчаных могілках Скірмунтаў мы знайшлі кавалак помніка са словамі з Біблії: "Którzy sieją ze łzami, będą żąć z radością" ("Хто сее са слязамі, той будзе жаць з радасцю"). Хіба гэта не пра нашу гісторыю...

**Алесь Смалянчук, Алеся Сідлярэвіч**

*** Усе цытаты даюцца з захаваннем асаблівасцяў вымаўлення жыхароў в. Парэчча**

